ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 41 (97) 9 – 15 сьнежня 1994 г. Кошт 50 рублёў

*Сказалі, што будынак замініраваны, але не маглі вызначыць, калі бомба будзе знойдзена.* **- ст. 2.**

*Выдала забойцу скванасьць, бо ён вырашыў зарабіць нават на «мокрым ствале».* **- ст. 3.**

*В.БЫКАЎ: «У беларусаў заўсёды не хапала нацыяналізму для ажыцьцяўленьня дзяржаўнай ідэі.»* **- ст. 5.**

*ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск – Варшава – Масква - Санкт-Пецярбург.*

## МЫ РАЗАМ З ІМІ НЕ СЛУЖЫЛІ

1 сьнежня Прэзідэнт Беларусі А.Лукашэнка ўзяў удзел у працы сесіі гарадзкога і вабласнога Саветаў Гомеля.

Пасьля зацьвярджэньня старшыні абласнога савета Аляксандр Рыгоравіч адказаў на пытаньні з залы.

У прыватнасьці, на пытаньне дэпутатаў, ці доўга журналісты будуць перашкаджаць ім працаваць, спадар прэзідэнт адказаў, што цырымоніцца з мас-медыа ён будзе менш. У выпадку публікацыі няпраўды Прэзідэнцкім указам будзе закрыта выданьне. Хто праў - потым разьбярэцца суд. На пытаньне, чаму Вярхоўны Савет не разглядае альтэрнатыўныя законапраекты, падрыхтаваныя, напрыклад, фондам дэмакратычных рэформаў імя Л.Сапегі, Прэзідэнт адказаў, што не час зараз разглядаць тое, што прапануе "господін Л.Сапега". (Для даведкі. Леў Сапега - палітычны дзеяч XVI стагоддзя, канцлер Вялікага Княства Літоўскага . Прымаў чынны ўдзел у распрацоўцы законаў ВКЛ).

**СІМ**

## АПАЗІЦЫЯ ПРАЦУЕ БЕЗ ВЫХАДНЫХ

3-4 сьнежня група дэпутатаў апазіцыі Беларускага Народнага Фронту ў Вярхоўным Савеце - С.Папкоў, Ю.Беленькі, Б.Гюнтар, сябра Ценявога Кабінету Міністраў С.Гусак - зьдзейсьнілі чарговую паездку па Гарадзенскай вобласьці. На гэты раз яны наведалі Воранаўскі раён. Фронтаўцы сустрэліся з выбаршчыкамі ў райцэнтры, мястэчку Радунь, вёсках Нача, Забалаць, Памялішкі, Беняконі, Жырмуны, Канвелішкі, а таксама с кіраўніцтвам раёна і ксяндзамі. У Беняконях і Канвелішках былі ўтвораны суполкі Беларускага Народнага Фронта.

10-11 сьнежня дэпутаты ад апазіцыі плануюць пабываць у Лідзе і Лідзкім раёне. Сустрэча з імі ў райцэнтры адбудзецца 10 сьнежня ў 10.30 у кінатэатры "Кастрычнік". Запланаваны сустрэчы з кіраўніцтвам горада і раёна, прадпрымальнікамі, сьвятарамі.

**С.СУДНІК.**

## БЕСКВАТЭРНЫЯ АФІЦЭРЫ ГУРТУЮЦЦА

Нядаўна афіцэрамі гарадзенскага ваеннага гірнізона створана ініцыятыўная група бескватэрных афіцэраў (ІГБА). Мэта стварэньня групы - папраўка магчымых варыянтаў па збудаваньню на афіцэрскія складкі жылога дома.

Вядома, што на чарзе на атрыманьне жыльля ў гарадзенскім гарнізоне чакаюць болей 800 чалавек.

**Г.А.**

## З ПАДАРУНКАМ ПАПЫ ПАСТУПІЛІ НЕПАВАЖНА

Перасовачная лабараторыя па дыягностыцы СНІДа, якую ў свой час падарыў Папа Рымскі Ян Павел II, не выкарыстоўвалася па прызначэньню, а толькі як транспартны сродак. Зараз яна стаіць на прыколе: зламалася. Пра гэта паведаміў на прэс-канферэнцыі начальнік упраўленьня аховы здароўя Гарадзенскага аблвыканкама У.Белазёрцаў. Падрабязнасьці пра яе чытайце ў бліжэйшым нумары "Пагоні".

**Д.А.**



## ЗБРОЙНЫ БІЗНЕС У ГОРАДНІ

Падчас аператыўнай вышуковай дзейнасьці па выяўленьню крыніц збройнага бізнесу ўпраўленьнем КДБ па гарадзенскай вобласьці былі вывучаны матэрыялы ў адносінах да жыхара Горадні нейкага спадара Алексяевіча, які не толькі захоўваў на кватэры зброю, але і меў вытворчасьць па вырабу некаторых яе вузлоў, якія збываў жадаючым.

У выніку праведзенай сумесна з супрацоўнікамі УУС аперацыі 4 сьнежня сумнавядомы вытворца зброі затрыманы. Па месцы жыхарства збройніка знойдзены аўтамат АК-74 з двума камплектамі боезапасу, дзьве дробнакаліберныя стрэльбы (адна з аптычным прыцэлам), рэвальвер сістэмы наган, 476 патронаў featuring рознага калібру і бронекамізэлька.

Узбуджана крымінальная справа, праводзяцца аператыўна-сьледчыя мерапрыемствы.

**Д.В.**

## КСЁНДЗ АНАТОЛЬ: "ШКАДУЮ АБ СТРАЦЕ ГОРАДНІ, АЛЕ НОВЫ ДВОР - ГЭТА ЯШЧЭ НЕ ВЫСЕЛКІ

Днямі заступнік і духоўнік гарадзенскіх беларусаў-каталікоў пасьля доўгага перапынку наведаў рэдакцыю і расказаў пра сябе так: "Новы двор на Шчучыншчыне - гэта, канешне, не Горадня, але я вельмі задаволены, бо маю свой прыход, дзе адначасова і дарадца, і сьвятар, і добры сябра для вернікаў.

**Г.Д.**

## АБУДЗІСЯ, БЕЛАРУСЬ!

26 і 27 лістапада сёлета ў Віцебску праходзіў 1-шы зьезд нацыяналістаў Беларусі "Правага рэваншу". У рэшце рэшт у шматпакутлівай талерантнай Беларусі, з яе рахманным насельніцтвам, не вытрымаўшы зьдзекаў над нацыяй і нацыянальнай культурай ад розных "братоў" і сваіх прадажных кіруючых манкуртаў, зьявілася крайне правая нацыяналістычная арганізацыя -"Правы рэванш",- якую ўзначальвае паэт Славамір Адамовіч. Яны правакуюць , затурканых, застрашоных беларусаў адрадзіць у сабе годнасьць, адчуць сябе асобай - гаспадаром у сваёй хаце, у сваёй дзяржаве.

Сёньня шмат маладых беларусаў, зацікавіўшыхся сваёй гістарычнай спадчынай, робячыся нацыянальна сьвядомымі людзьмі, шукаюць шляхоў да аб'яднаньня сваіх намаганьняў у барацьбе за незалежны, шчасьлівы лёс сваёй дзяржавы. Дзеля гэтай мэты і быў зарганізаваны зьезд нацыяналістаў Беларусі.

Але ўладныя вельмі добра ведаюць, чым гэта "пахне" нацыянальна-адраджэнскі рух: жорны барацьбы за нацыянальнае вызваленьне, якія перамелюць косьці ўсёй закіраваўшайся на нашай зямлі, панаехаўшай набрыдзі і сваім партнаменклатурным князькам-прыстасаванцам, раптоўна запамятаўшым матчыну мову, якой карысталіся ў дзяцінстве.

Таму ганеньні на ўдзельнікаў першага зьезду "Правага рэваншу" пачаліся яшчэ ў Менску шматлікімі нарадамі міліцыянтаў ў парушэньне ўсіх правоў чалавека, пра якія так енчаць павылазіўшыя адусюль пракамуністычныя адшчапенцы.

Каб сарваць зьезд, што праходзіў у галерэі мастака А.Пушкіна, аднаго з даўніх і першых барацьбітоў за нацыянальнае адраджэньне, гарадзкімі ўладамі была пушчана ў справу версія звыклых сучасных бандытаў, быццам нехта па тэлефоне папярэдзіў міліцыю аб падложанай у будынку бомбе. З удзельнікамі зьезду абыходзіліся як са злачынцамі. У той жа час амаль што побач разгульвалі сваёй калонай пад шматлікімі чорна-жоўта-белымі сьцягамі малойчыкі са Славянскага Сабора "Белая Русь" і мясцовыя жырыноўцы. І ў Менску, адкуль ехала каля 30 чалавек з СС "Б.Р.", ніхто з міліцыі іх не чапаў, хаця відаць было, што едуць яны на злосьць нацыяналістам, з правакацыйнымі мэтамі. У Віцебску міліцыя іх таксама не чапляла, не перашкаджала ім разьбіць свой шабаш (можа сутаравы перад непазьбежнай каньчынай).

Першы зьезд нацыяналістаў закончыўся арыштам завадатараў, і Славамір Адамовіч з паплечнікамі быў пасаджаны за краты.

Тое, што адбылося ў Віцебску, паказальна для ўсяе сучаснай Беларусі: старая камуністычная ўлада моцна трымаецца за гэтую ўладу, і каб утрымаць яе пойдзе на самыя рашучыя безчалавечыя захады. Яна баіцца сваіх нацыянал-патрыётаў, душыць іх як можа, адначасова даючы мажлівасьць шавіністам суседняй дзяржавы на маніфестацыі з лозунгамі, абражаючымі дзяржаўную годнасьць і беларускасьць.

Таму нараджэньне "Правага рэваншу" - заканамерная зьява ў нацыі, вымушанай і па сёньняшні дзень змагацца за сваё існаваньне на гэтай зямлі. На маю думку, толькі "Правы рэванш", носьбіт нацыянальнай беларускай ідэі, нарэшце абудзіць абыякавага беларуса да барацьбы за дзяржаву і свой дабрабыт.

Аб усіх перашкодах і зьдзеках віцебскіх уладных "держиморд" над удзельнікамі першага зьезду беларускіх нацыяналістаў "Правага рэваншу" распавядае ў сваім артыкуле адзіны прадстаўнік Горадні Анатоль Брусевіч, які быў накіраваны Гарадзенскай радай БНФ у Віцебск на сьвяткаваньне ўгодкаў нараджэньня выдатнага пісьменьніка, нацыяналіста У.Караткевіча і адначасова ўдзельнічаць у першым зьезьдзе "ПР".

**(Падрабязнасьці чытайце на 2-й староны).**

## «РАЗМАРОЗІЛІ» ЦЭНЫ

На прэс-канферэнцыі 5 сьнежня прэм'ер-міністр М.Чыгір аб'явіў аб пастанове ўрада адмяніць з 7 сьнежня ранейшае рашэньне аб замарожваньні цэн на асноўныя прадукты харчаваньня. На думку прэм'ера, зноў лібералізаваныя цэны на хлеб і мясапрадукты ўзьнімуцца прыкладна на 30 працэнтаў, а на малочныя прадукты - на 50.

М.Чыгір заявіў, што рашэньне аб замарожваньні цэн, павышэньні зарплаты і выплаце дадатковых дапамог прывяло да таго, што насельніцтва атрымала і не атаварыла 103 мільярды беларускіх рублёў (12,5 мільёна долараў). Па яго словах, урад не можа больш дазволіць сабе пакрываць з бюджэта выдаткі, якія ўтвараліся на прадпрыемствах харчовай прамысловасьці ў выніку рашэньня аб замарожваньні цэн. "Наша сьпешка абгрунтавана яшчэ і тым, што мы павінны паведаміць Міжнароднаму валютнаму фонду аб сваёй палітыцы ў вобласьці цэнаўтварэньня, - сказаў М.Чыгір. - Пастанова па цэнах прынята, каб пацьвердзіць МВФ нашую палітыку".

Па словах прэм'ера, у панядзелак Фонду накіраваны ўрадам мемарандум, у якім пацьверджаны узгодненыя раней з МВФ пазіцыі. Ён заявіў таксама, што мяркуемыя крокі ў вобласьці цэнаўтварэньня былі узгоднены з А.Лукашэнкай перад яго ад'ездам на нараду СБСЕ ў Будапешт.

Нагадаем, што указ Прэзідэнта Беларусі аб замарожваньні з 14 лістапада цэн на асноўныя прадукты харчаваньня істотна ўскладніў адносіны беларускага ўрада з МВФ. Па словах прадстаўніка Фонду у Беларусі В.Міддзелкоопа, калі нарада савета дырэктароў МВФ па Беларусі не адбудзецца да Каляд, то прадстаўленьне дапамогі будзе адтэрмінавана на некалькі месяцаў, бо давядзецца яшчэ раз узгадняць праграмныя паказчыкі. А ў выпадку станоўчага рашэньня МВФ, Беларусь ужо ў сьнежністудзені зможа атрымаць другую частку крэдыта на сістэмныя трансфармацыі ў памеры 128 мільёнаў долараў і крэдыт STAND BY - 180 мільёнаў долараў.

**СІМ**



*Наступны нумар "Пагоні" выйдзе 23 сьнежня 1994г.*



# ГРАМАДЗТВА

## ЦЕНЯВЫ КАБІНЕТ ДЗЕЙНІЧАЕ

**На чарговых пасяджэньнях Ценявога Кабінета Апазіцыі БНФ 15 і 29 лістапада прагігваўся канцэптуальны разгляд тэзісаў да Праграмы вырытаваньня нацыі ад фізічнага і духоўнага вымірання ва ўмовах эканамічнага крызісу і наступстваў чарнобыльскай аварыі.**

Народным дэпутатам Л.Зданевічам падрыхтаваны праект рэформы ў галіне архітэктуры і будаўніцтва, асновы жыльлёвай палітыкі з пункту гледжаньня ўзаемаадносін паміж чалавекам і дзяржавай, у тым ліку юрыдычных і фінансавых. Абмеркаваны пытаньні новага эфектыўнага будаўніцтва, эксплуатацыі і рэканструкцыі існуючага, праектаваньня аб'ектаў прамысловасьці, рэстаўрацыі помнікаў культуры і гісторыі. Вялікую цікавасьць выклікалі праблемы забудовы малых і вялікіх гарадоў, сельскіх паселішчаў. У жыльлёвым будаўніцтве прыярытэтным вызначана індывідуальнае. Прапанаваная рэформа патрабуе адпаведнага заканадаўства. У заключэньне абмеркаваньня З.Пазьняк падкрэсьліў, што будаўніцтва жыльля зьяўляецца ў наш час галоўным сацыяльным пытаньнем.

Даклад аб разьвіцьці фізкультуры і спорту з пункту гледжаньня паляпшэньня стану здароўя насельніцтва Беларусі (дакладчык народны дэпутат П.Холад) быў заслуханы 29 лістапада сябрамі Кабінета таксама з вялікай увагай. Разьмеркаваны функцыі і суадносіны агульнай аздараўляльнай фізічнай культуры і прафесійнага спорту, падпарадкаванага Алімпійскаму камітэту. Патрабуе значнага рэфармаваньня структура Дзяржкамспорту. Прыярытэтным павінна стаць разьвіцьцё фізкультуры (перш за ўсё - школьнай) як асновы здароўя нацыі, асабліва ўлічваючы крытычны стан яго ў дзяцей, 80-90% якіх пры заканчэньні школы маюць захворваньні. Неабходна дзяржаўнае фінансаваньне гэтай галіны, у той час як спартыўная праца можа існаваць на самаакупнасьціі. Акрамя таго, павінна разьвівацца камерцыйная фізкультура, напрыклад, элітарныя клубы, якія могуць забясьпечыць краіне даход.

29 лістапада канчаткова прыняты Ценявым Кабінетам праект Кодэкса Рэспублікі Беларусь "Аб нетрах". Для перадачы на абмеркаваньне сесіі ВС падрыхтавана брашура "Нетры Рэспублікі Беларусь. Праблема прававога рэгуляваньня, выкарыстаньня і аховы". (докт. геолага-мінералагічных навук В.Масквіч, канд. юрыдычных навук Л.Мароз). Прапанавана і разгледжана канцэптуальная ўвязка дадзенага Кодэкса з іншым заканадаўствам, якое датычыцца аховы і выкарыстаньня акаляючага асяроддзя.

На двух апошніх пасяджэньнях прадстаўнікамі Ценявога Кабінета выказваўся вялікі непакой адносна рыхтуючагася Пагадненьня аб мытным саюзе з Расейскай Федэрацыяй. Народным дэпутатам С.Навумчыкам прапанавана арганізаваць прэс-канферэнцыю Ценявога Кабінета па абмеркаваньню праекта гэтага пагадненьня.

**С.Б.**




## КАМПЕНСАЦЫЯ

Што ні дзень у нас сенсацыя,
Цэн падвышка, індэксацыя,
Шчэрбазубая інфляцыя
І, нарэшце, кампенсацыя.
Цэны неба ўжо штурмуюць,
Нам зарплату індэксуюць.
Пасьля тое індэксацыі
Уваччу галюцынацыі.
Як на хлеб узьнялі цэны,
Пахудзелі ўсе кішэні.
Ну ды мае дзядзька рацыю,
Заўтра будзе кампенсацыя.
Разам цэны паўздымалі
На гарэлку і на сала,
За бензін, і за дарогу,
І за іншае шчэ многа.
А за гэта кампенсацыя -
Аж з трох пальцаў камбінацыя.
Ну а ўлада зноў шчыруе,
Зноўку нешта кампенсуе
І занадта ўжо заўзята
Гне сьпіну прад большым братам.
Ну дык будзьце ўзяць гатовы
Кампенсацыю за мову,
А яшчэ, калі дадуць,
І цалкам за Беларусь.

**Станіслаў СУДНІК.**



## ХТО Ў ХАРОМАХ ГАСПАДАРЫЦЬ?

*Калі наведваеш так званыя "царскія сёлы", то міжволі забываешся на тое, што ў краіне эканамічны крызіс. Далібог, малайчына генеральны дырэктар цэмзавода ў г.п. Краснасельскі, які зьяўляецца ўласьнікам "сьціплага" будынку (на здымку ўнізе). Каб кожны так жыў! Але іншы раз атрымліваецца, што раздаваць няма каго. Ніхто не ведае, хто гаспадары будынкаў, што сфатаграфаваны верхніх здымках.*

*Аднак, мы лічым, што "страна должна знать своих героев". І таму просім адгукнуцца простых беларускіх хлопцаў з Горадні, якія не ў прыклад Прэзідэнту здолелі перамагчы інфляцыю. Не саромейцеся! Ваш вопыт варты пераймання!*



**Фатаграфаваў І.Барысаў.**

## ШТОДЗЕНЬ ПА 1,5 МІЛЬЁНА

У Беларусі разгараўся першы скандал, зьвязаны з падманам уладальнікаў прыватызацыйных чэкаў. Як стала вядома, Пракуратурай рэспублікі вядзецца пошук трох заснавальнікаў АТ "Міждарбудкамплектінвест", якія зарэгістравалі ў Менскім гарвыканкаме вышэйназванае акцыянернае таварыства і, не маючы адпаведнай ліцэнзіі Міністэрства па кіраваньню дзяржмаёмасьцю, аб'явілі аб прыманьні ад насельніцтва прыватызацыйных чэкаў пад неймаверна высокія працэнты.

Усяго за тры дні ўдзельнікі гэтага АТ прынялі ад насельніцтва прыватызацыйных чэкаў на суму 4,5 мільёна рублёў, прадалі і пасьпяхова зьніклі з выручанымі грашыма.

## ГРОШЫ КПБ-КПСС У ПРЫВАТНЫХ РУКАХ

Згодна інфармацыі народнага дэпутата Беларусі Галіны Семдзянавай, Пракуратура рэспублікі дала адказ на яе дэпутацкі запыт, у якім паведаміла аб пачатку пошуку грошай КПБ-КПСС. Размова ідзе хутчэй аб пошуку і вяртаньні дзяржаве сродкаў, размешчаных партыйнымі функцыянерамі ў розныя фірмы. Ужо вядома, што да жнівеньскага перавароту КПБ-КПСС была сузаснавальнікам каля 80-ці прыватных прадпрыемстваў, куды хутчэй за ўсё пасьля часовай забароны дзейнасьці кампартыі была перапампавана значная сума грошай.

**СІМ**

## ДРУГІ ЗЬЕЗД БААПР АДБУДЗЕЦЦА Ў МЕНСКУ

**У Менску адбылося пасяджэньне рады Беларускай асацыяцыі ахвяр палітычных рэпрэсій (БААПР). У працы пасяджэньня ўзялі ўдзел 19 сяброў рады з 30-ці абраных на першым зьезьдзе БААПР у 1992 годзе.**

Пасяджэньне праводзіў віцэ-прэзідэнт асацыяцыі, начальнік аддзелу па рэпрэсіям Галоўнага ўпраўленьня пры Савеце Міністраў У.І.Адамушка.

Рада большасьцю галасоў (18 супраць аднаго) прыняла пастанову лічыць другі зьезд БААПР неадбыўшымся. Вырашана склікаць другі зьезд БААПР 23 сьнежня 1994 года ў Менску. Устаноўлены нормы прадстаўніцтва на будучым зьезьдзе: ад Берасьцейшчыны, Гомельшчыны, Гарадзеншчыны, Менскай і Бабруйскай гарадзкіх арганізацый па пяць дэлегатаў. Ад астатніх рэгіёнаў Беларусі - па аднаму дэлегату. Таксама даручана зрабіць справаздачу рэвізійнай камісіі намесьніку старшыні камісіі ў сувязі са сьмерцю спадара старшыні.

Для падрыхтоўкі зьезду зацьверджаны аргкамітэт з дзевяці чалавек.

**А.ФІРСАЎ.**

## ДРОЖДЖЫ ПА КАНВЕРСІІ

Новае абсталяваньне ўстанаўліваецца на Ашмянскім дрожджавым заводзе. Яно закуплена на адным з украінскіх ваенных заводаў па канверсіі. Гэта дазволіць ашмянскім вытворцам у хуткім часе выпускаць дрожджы з большым тэрмінам захоўваньня.

## СУЧАСНАЯ ХАРЭАГРАФІЯ Ў ВІЦЕБСКУ

У Віцебску прайшоў восьмы міжнародны фестываль сучаснай харэаграфіі. У ім прымалі ўдзел майстры балета Расеі, Францыі, Нямеччыны і Беларусі. Пераможцам у конкурснай праграме стала група "Тад" з Горадні, якая існуе на свае ўласныя сродкі ўжо некалькі год.

## З «АЛІФОЎКІ» БУДЗЕ КАНЦЭРН

Першыя крокі прыватызацыі зроблены на Астравеччыне.

Прыватызаваны два прадпрыемствы з фонду Рэспубліканскай маёмасьці. Астравецкая кардонная фабрыка "Аліфоўка" пераўтворана ў канцэрн. На базе арэнднай дарожнай перасовачнай механізаванай калоны N 73 створана акцыянернае таварыства "Бел-Ост".

**А.С.**

## КОНТРПРАПАНОВА

Піша вам сталы чытач з Менску Вітаўт Пазьнякевіч. Мне газета вельмі падабаецца, але ў мяне ёсьць некаторыя просьбы і прапановы да вас.

Лічу, што трэба больш расказваць пра беларускую нацыянальна самасьвядомую моладзь. Для Менску трэба друкаваць газеты з тэлепраграмамі, якія ідуць у Менску. Больш пішыце пра беларускамоўныя рок-гурты, попвыканаўцаў, бардаў. Прашу расказаць пра такія гурты, як "Мроя", "Крама", "Новае Неба", "Палац", "Уліс", аб такіх бардах як Алесь Камоцкі, Віктар Шалкевіч, Зьміцер Бартосік, Лана Медзіч, Андрусь Мельнікаў, Сяржук Сокалаў-Воюш. Яшчэ прашу расказаць пра беларускія нацыянальна-дэмакратычныя рухі, партыі, аб'яднаньні, пра іх дзейнасьць, мэты, гісторыю, дзе да іх можна ўступіць у Менску, як зьвязацца з імі. Раскажыце пра такія арганізацыі, як "Задзіночаньне беларускіх студэнтаў", "Аб'яднаньне беларускіх скаўтаў", "Правы рэванш" ды і інш.

**Вітаўт ПАЗЬНЯКЕВІЧ, г.Менск.**

**Ад рэдакцыі: Вітаўт, каб ведаць сучаснае жыцьцё Беларусі, а таксама атрымаць праўдзівую інфармацыю пра мінуўшчыну Бацькаўшчыны, неабходна падпісацца на газету "Пагоня".**

**Нагадваем, што падпіска падоўжана да 15 сьнежня і ў вас ёсьць яшчэ шанц мець на наступнае паўгоддзе пажаданую інфармацыю.**

## БЕЛАРУСКАЕ ВОЙСКА НА КАНТРОЛІ

Сёлета другі раз запар 28-ы вайсковы корпус, кашары якога месьцяцца ў Горадні, кантралююць замежныя інспекцыі. На гэты раз да Горадні прыехалі спецыялісты з Каралеўства Даніі і Рэспублікі Польшчы.

Замежныя кантралёры правядуць інспекцыю вайсковых частак корпуса, на ўзбраеньні якіх знаходзіцца ваенная тэхніка, што трапіла пад скарачэньне згодна міжнароднай дамове.

**Г.В.**

## ЗДАРЭНЬНІ

## ТАЯМНІЦА ЗАБОЙСТВА РАСКРЫТА

Пяцімесячная таямніца забойства ў Горадні маладой сям'і Андрэя Куца і Гражыны Ігнатовіч у рэшце-рэшт раскрыта.

Забойца, а гэта 24-гадовы нідзе не працуючы гарадзенец, як высьветліла сьледзтва, добры знаёмы і дзелавы партнёр нябожчыкаў. Ён на асабістае зьдзіўленьне нечакана быў затрыманы ва ўласнай кватэры.

Выдала забойцу, сквапнасьць, бо ён вырашыў зарабіць нават на "мокрым ствале", які пасьля перапродажу трапіў спачатку да другіх рук, а потым да трэціх. І калі "трэція рукі", што займаліся кватэрнымі разбоямі, разам з набытым рэвальверам "засыпаліся", то пасьля экспертызы зброі злачынец расказаў пра набыцьцё зброі і даў неабходную сьледству нітку.

Вядома, што перад тым, як націснуць спускавы курок, "дзелавы" сябра запатрабаваў ад забітых пэўнай сумы ў амерыканскіх доларах.

**Г.ВАСІЛЕВІЧ.**

## БЕЛАРУСЬ ЗАДАВОЛІЦЬ АДЗІН ПРАЦЭНТ

Як паведаміў намесьнік начальніка сакратарыяту віцэ-прэм'ера Беларусі па паліву і энергетыцы Ю.Мельнікаў, да Масквы адправілася дэлегацыя на чале з генеральным дырэктарам "Белтрансгазу" М.Мачэрнюком. У Маскве плануецца абмеркаваць пытаньне паставак энерганосьбітаў на Беларусь, а таксама прадставіць РАТ "Газпрам" новы сьпіс прадпрыемстваў у лік беларускай запазыкі за газ.

Да новага сьпісу занесены буйнейшае ў Эўропе вытворчае аб'яднаньне "Азот", АТ "Белтрансгаз", АТ "Наваградзкі завод газавай апаратуры", а таксама Берасьцейскі завод газавай апаратуры.

Па словах спадара Мельнікава, РАТ "Газпрам" вынес прапанову акцыяніраваць і стварыць сумесныя прадпрыемствы на базе беларускіх электроўняў. Лішкі энергіі, выраблеямыя імі, павінны экспартавацца. Яшчэ Ю.Мельнікаў заўважыў, што ён мае цяжкасьці вылічыць працэнтны ўдзел Беларусі ў акцыяніраваньні. Ён таксама адзначыў, што ўмовы дыктуе "Газпрам", і калі ў прапануемых варыянтах Беларусі будзе аддадзены хоць 1% акцый, то нам нічога не застанецца, як пайсьці на агавораныя ўмовы.

## У ПАГАРШЭНЬНІ АДНОСІН ВІНАВАТЫ КДБ

Былы камандуючы памежнымі войскамі Беларусі Я.Бачараў пракаментаваў сітуацыю вакол выкрыцьця шпіёнаў як задуманую пад візіт М.Грыба ў Варшаву. Ён паведаміў, што цяперашні шэф КДБ Ц.Ягораў падчас шпіёнскіх "страстей" на Беларусі быццам бы зусім выпадкова зьявіўся з беларускай дэлегацыяй у Варшаве, дзе прысутнічаў на афіцыйных прыёмах і сустрэчах, хаця і быў уключаны ў склад дэлегацыі. Гэта, на яго думку, выключае магчымасьць недачыненьня шэфа КДБ да вышэйпамянёных падзей.

Я.Бачараў лічыць, што пры спецслужбах Беларусі ўзору 1937 года, якія нічым і нікім не абмежаваны ў сваёй дзейнасьці, вельмі хутка можна будзе гаварыць пра любых шпіёнаў, "таму што КДБ Беларусі ўцягнуць у палітычныя ігрышчы". Экс-міністр не змог адказаць на пытаньне, ці не прадыктавана пагаршэньне адносін Менска з Варшавай і Стамбулам жаданьнем прэзідэнцкіх колаў пакрыць Балтыйска-Чарнаморскую тэму, адзначыўшы, што "альтэрнатыва расейскай нафце павінна існаваць, а пра Балтыйска-Чарнаморскі саюз трэба добра падумаць".

У сварцы Варшавы і Менска Я.Бачараў не бачыць "рукі" Масквы, лічачы, што КДБ Беларусі вырашыў у чарговы раз сам прадэманстраваць усходні вектар у сваёй дзейнасьці.

**СІМ**

## НАЎЗАМЕН ПАРТНЁРСТВА - ЧАРГОВАЯ ПАСТКА

На нядаўняй прэс-канферэнцыі прадстаўнік Ценявога Кабінету Народнага фронту Анатоль Станкевіч заявіў, што заключэньне мытнага саюза з Расеяй давядзе Беларусь да страты суверэнітэту. Закладзены ў праект пагадненьня механізм прыняцьця рашэньняў прапануе надзяленьне бакоў правам голасу ў адпаведнасьці з эканамічным патэнцыялам. Гэта забірае ў Беларусі магчымасьць абараняць свае інтарэсы, пакольні судносіны галасоў будуць адзін да дзесяці.

Сябра Ценявога Кабінету спадар Масквіч да слоў калегі дадаў наступнае: "Існуючы зараз парадак, пры якім на Беларусь распаўсюджваюцца расейскія мытныя правілы, супярэчыць інтарэсам рэспублікі".

Па словах спадара Масквіча, Беларусь не здолее папоўніць свой залаты ці алмазны фонд, бо гэтаму супярэчаць аналагічныя расейскім высокія мытныя пошліны на імпарт каштоўных металаў.

**СІМ**

## СВАЯК ПРЭМ'ЕРА НЕ СТАЎ ГЕНПРАКУРОРАМ

Сейм Летувы адхіліў прапанову прэзідэнта краіны А.Бразаўскаса прызначыць на пасаду генеральнага пракурора Ю.Васіляўскаса, які зьяўляецца сваяком цяперашняга прэм'erміністра (яго жонка - стрыечная сястра А.Шляжавічуса). 58 парламентарыяў выказаліся ў падтрымку яго кандыдатуры, 56 - супраць. Для зацьверджаньня прэтэндэнта на пасаду генеральнага пракурора не хапіла чатырох галасоў.

## ПРЭТЭНДУЮЦЬ НА КАЛІНІНГРАД

Арганізацыя "За адзінства Летувы" правяла ў Каўнасе навуковую канферэнцыю "Праблемы Калінінграда". Большасьць дакладчыкаў казала пра тое, што Калінінград - былыя землі прусаў і летувісаў - натуральны працяг летувіскай дзяржавы.

У прынятай рэзалюцыі сярод іншага прапануецца скліканьць міжнародную канферэнцыю па пытаньнях дэмілітарызацыі Калінінграда і вызначэньня яго статуса.

**LR**

* * *

М.Грыб абмеркаваў ў Польшчы магчымасьць стварэньня Балтыйска-Чарнаморскага саюза.

Як заявіў М.Грыб, ён абмеркаваў у Польшчы магчымыя варыянты стварэньня Балтыйска-Чарнаморскага саюза. На жаль, пакуль што, па словах сьпікера, быць ці не Балтыйска-Чарнаморскаму саюзу, не сказана ні воднага канкрэтнага слова. І ўсё-такі ініцыятыва Польшчы не засталася не заўважанай: яна пачала абмяркоўвацца на самым высокім дзяржаўным узроўні.

**СІМ**

# ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ

**23 лістапада мінула чарговая гадавіна выхаду ў сьвет першага нумара віленскай беларускай газеты "Наша Ніва". Прапануем чытачам гутарку з сынам аднаго з заснавальнікаў газеты, жыхаром Вільні Лявонам Луцкевічам.**

**- Шаноўны спадар Лявон, ці была "Наша Ніва" першай беларускай газетай?**

- "Наша Ніва" была штотыднёвікам, які выдаваўся ў Вільні з лістапада 1906 да 1915 г.г. Ці была гэта першая беларуская газета? Уласна кажучы, яна мела свайго папярэдніка - штотыднёвік "Наша Доля". "НД" выходзіла, аднак, нядоўга, а яе выдаўцы сталі крыху пазьней заснавальнікамі "Нашай Нівы". Такім чынам, "НН" можна лічыць першай беларускай газетай, хаця пачатак беларускага друкаванага слова можна было б шукаць у 19-ым стагоддзі, калі падчас паўстаньня 1863 года Кастусь Каліноўскі выдаваў лісток-праклямацыю "Мужыцкая праўда". Крыху пазьней, у 1884 годзе, былі спробы народавольцаў-беларусаў выдаваць нелегальную газету "Гоман". Аднак толькі "Наша Ніва" па сутнасьці заснавала беларускую прэсу.

**- Можа, некалькі слоў пра рэдакцыйны склад газеты.**

- Як я ўжо сказаў, заснавальнікамі штотыднёвіка былі людзі, якія працавалі ў "Нашай Долі". Рэдактарам і выдаўцом газеты быў Іван Тукеркес. У склад рэдакцыі ўваходзілі Алаіза Пашкевіч-Цётка, літаратурны кіраўнік Фелікс Умястоўскі, а таксама браты Іван і Антон Луцкевічы. Поўная назва штотыднёвіка "НН" была наступная: "Першая беларуская газета з рысункамі, выходзіць раз у тыдзень рускімі і польскімі літарамі". Выдаўцом і рэдактарам першых чатырох нумароў быў Зыгмунт Вольскі, ад пятага нумару - Аляксандр Уласаў, апошнім рэдактарам і выдаўцом быў з лютага 1914 года Янка Купала.

**- Ці была "Наша Ніва" органам нейкага згуртаваньня, партыі ці гэта была так званая вольная прэса?**

- Заснавальнікамі газеты былі людзі, якія яшчэ напярэдадні рэвалюцыі 1905 года заснавалі першую беларускую партыю. Напачатку яна называлася "Беларуская Рэвалюцыйная Грамада", потым зьмянілася на "Беларускую Сацыялістычную Грамаду". Партыя гэта была заснавана ў беларускім асяродку ў Пецярбурзе. Крыху пазьней яна мела два цэнтры: у Менску і Вільні. Найбольш актыўнымі членамі цэнтру ў Вільні былі названыя ўжо асобы. Партыя дзейнічала ў падпольлі, такім чынам, можна лічыць, што газеты "Наша Доля" і "Наша Ніва" былі легальнымі органамі нелегальнай палітычнай арганізацыі.

**- Як можна ахарактарызаваць напрамкі дзейнасьці "Нашай Нівы"?**

- Яны былі ўсебаковымі. Газета была асяродкам беларускага жыцьця, усяго народна-вызваленчага руху. Такім чынам, быў гэта грамадзка-палітычны і літаратурны штотыднёвік.

**- Хто пераважна выступаў на старонках газеты?**

- Будучы, між іншым, літаратурным штотыднёвікам, "Наша Ніва" заснавала новую беларускую літаратуру. У гэты час зьявіліся такія людзі, як Янка Купала, Якуб Колас, Ядвігін Ш., Алаіза Пашкевіч-Цётка, Зьмітрок Бядуля, Максім Багдановіч. Гэта цэлая плеяда пісьменьнікаў, сёньня ўжо клясікаў беларускай літаратуры.

**- Хто з вядомых літаратараў непасрэдна працаваў у рэдакцыі?**

- У сакавіку 1907 года прыехаў у Вільню і працаваў у рэдакцыі Якуб Колас. У 1908 годзе рэдакцыя запрасіла ў Вільню Янку Купалу. Ён працаваў тут каля года, а пасьля выехаў у Пецярбург, каб працягнуць вучобу. У 1913 годзе вярнуўся ў Вільню і на працу апошняга года існаваньня "Нашай Нівы" быў яе галоўным рэдактарам і выдаўцом. Доўгі час сакратаром рэдакцыі быў Вацлаў Ластоўскі (псеўданім - Власт).

**- Якімі былі адносіны ўладаў да газеты?**

- Гэта была апазіцыйная газета, такім чынам, і ўлады ставіліся да яе не вельмі прыхільна. Асобныя нумары канфіскоўваліся. Акрамя таго, даволі частымі былі грашовыя штрафы. Сітуацыю ў рэдакцыі вельмі трапна акрэсьліў Сьцяпан Александровіч, напісаўшы: "Газета павінна была выказаць шмат дыпламатычнага спрыту, асьцярожнасьці, каб не гнявіць д'ябла цэнзуры і іншых паліцыйных установаў, і аднача-сова дагадзіць свайму богу-чытачу, які за цяжка зароблены грошы выпісваў адзіную газету на сваёй роднай мове. Дамоклаў меч пастаянна вісеў над газетай і нельга было пра гэта забываць."

Што датычыцца адносін "Нашай Нівы" да іншых народнасьцяў, якія жылі ў Вільні, яна салідарызавалася з тымі, хто быў у падобнай сітуацыі. Пра гэта вельмі трапна сказаў польскі грамадзкі дзеяч і дыплямат Лявон Васілеўскі: "Бароняччы інтарэсы беларусаў, яна не сее ненавісьці да іншых народаў. Адносіцца да іх з поўнай павагай, пашыраючы пераканаьне, што трэба поўнай жменяй чэрпаць са скарбаў іх найвялікшых культурных дасягненьняў; не дазваляе справакаваць ані расейскіх, ані летувіскіх нацыяналістаў. З вартым зьдзіўленьню пачуцьцём і тактам рэдактары гэтай газеты бароняць сваю народную справу перад шавіністамі розных колераў.

Трэба падкрэсьліць, што зьяўленьне "Нашай Нівы" належыць да ліку пераломных падзей у жыцьці беларускага народа. Яна паклала пачатак новаму перыяду ў гісторыі Беларусі - самаму багатаму па свайму нацыянальнаму зьместу і па сваёй плённасьці.

**Старэйшыя жыхары Горадні, вядома, памятаюць, што на месцы галоўнай спартыўнай арэны Гарадзеншчыны, спартыўнага комплексу "Чырвоны сьцяг" яшчэ напрыканцы 50-х гадоў існавалі вялікія жыдоўскія могілкі.**

**Вечны сон сыноў Сіёну актам дзяржаўнага вандалізму ўлады камуністых патурбавалі не першымі. У часы акупацыі Горадні падчас Другой сусьветнай вайны падобная чорная справа была зьдзейсьнена нямецкімі ўладамі.**

**Вялікая частка надмагільных камянёў здымалася з надгроб'яў і выкарыстоўвалася ў гаспадарчых мэтах. З магільнага граніту брукаваліся вуліцы Горадні. На вуліцы Цаглянай была пабудавана лесьвіца да мастка праз Гарадніčанку, якую добра ведаюць жыхары цэнтральнай часткі нашага горада.**



**НА ЗДЫМКУ: лесьвіца, збудаваная з магільных камянёў на вуліцы Цаглянай.**

**Фатаграфаваў В.ГАРОШКА.**

### МАСКВА

Як стала вядома, затрыманы ў Маскве шостага кастрычніка сёлетняга года падчас перастрэлкі з супрацоўнікамі міліцыі нейкі Аляксандр Салонік заявіў на допыце, што менавіта ён забіў 11 траўня 1993 года генеральнага дырэктара менскага канцэрна "Комінвест" Аляксандра Лісенчука. Таксама злачынца прызнаўся ў зьдзяйсьненьні яшчэ цяці забойстваў па замове. У тым ліку, старшыні Фонду сацыяльнай абароны спарцменаў імя Л.Яшына Атара Квантрашвілі.

Сьледчымі пракуратуры Беларусі ўстаноўлена, што карабіны, з якіх забойца забіваў Лісенчука і Квантрашвілі, выраблены ў Нямеччыне. Адтуль праз Фінляндыю перапраўлены да Эстоніі. Нейкі час карабіны былі на ўзбраеньні эстонскай службы аховы краю.

Казаць, што справа па прычыне забойства А.Лісенчука завершана, яшчэ рана. Яна толькі скранулася з мёртвай кропкі. Не выключана, што А.Салонік наўмысна нагаворвае на сябе, бо за забойства маскоўскага міліцыянта яго чакае вышэйшая мера пакараньня.

### ТАЛІН

Пасьля свайго візіту на Беларусь намесьнік канцлера Міністэрства замежных спраў Эстоніі Р.Малк, па зьвестках агенцтва "Бі-Бі-Сі", выказаў незадаволенасьць тым, што адносіны паміж дзьвюма краінамі разьвіваюцца вельмі марудна. Ён паведаміў, што 30 лістапада было падпісана пагадненьне па рэгуляваньню адносін паміж міністэрствамі замежных спраў Беларусі і Эстоніі.

На думку Р.Малка, гэта будзе падставай для заключэньня трох пагадненьняў у будучым: па этнічных меншасьцях, па безвізаваму рэжыму для дыпламатаў і гандлёва-эканамічнае. Затым павінен быць заключаны асноўны дагавор па цэламу шэрагу пытаньняў. Ён сказаў, што Эстонія мае дастаткова падстаў для замацаваньня адносін з Беларусьсю.

### ВІЦЕБСК

Хлебам-сольлю сустрэлі ў мінулую нядзелю вернікі касьцёлу Сьвятой Варвары ў Віцебску пасла Папы Рымскага Архіепіскапа Агосьціна Мартэта.

Папскі Нунцый на Беларусі спецыяльна наведаў Віцебск для правядзеньня сьвятой імшы ў гонар сьвятой пакутніцы Варвары, а таксама жадаў падчас візіту азнаёміцца з жыцьцёвай сітуацыяй на паўночным усходзе Беларусі.

У той жа дзень Нунцый сустрэўся з полацкай парафіяй грэка-каталіцкай царквы.

**СІМ**

# «...ЖЫЦЬ ПА ПРАЎДЗЕ»

**У Вільні на працягу некалькіх дзён гасьцяваў Васіль БЫКАЎ. Ён удзельнічаў у адкрыцьці мемарыяльнай дошкі, прысьвечанай Браніславу Тарашкевічу, сустрэўся з віленскімі беларусамі, наведаў таксама Саюз Пісьменьнікаў Летувы. З аўтарам вядомых псіхалагічных раманаў сустрэўся Уладзіслаў СТРУМІЛА.**

**- У мяне такое ўражаньне, што вы не публічны чалавек, што вы жывеце больш унутраным жыцьцём.**

- Гэта так. Я сапраўды не публічны. Я не прапаведнік, я хутчэй за ўсё спаведнік і вельмі даражу сваім унутраным засяроджанным жыцьцём. Калі б была такая магчымасьць, я б выехаў у найбольш спакойную краіну сьвету і там выдатна жыў бы. На жаль, гэта ў наш час немагчыма.

**- Адвечнае пытаньне "Як жыць?" я хацеў бы задаць і вам.**

- На адвечнае пытаньне ёсьць адвечны адказ - па праўдзе. Гэта евангельскі запавет, якому амаль 2000 гадоў, і вельмі сумна, што ў канцы дваццатага стагоддзя трэба ўспамінаць яго, бо сьвет загразнуў у хлусьні і няпраўдзе. Гэта датычыць і нашай краіны. Цяпер мы вось выбіраемся з гэтага балота падману і зла, выбіраемся не заўсёды лепшым чынам, пра што сьведчыць наша жыцьцё.

**- Якое жыцьцё для вас больш сапраўднае - само жыцьцё ці літаратура?**

- Безумоўна, само жыцьцё: яно першаснае. Літаратура, як і ўся культура, - гэта вытворнае ад жыцьця. Хаця - і гэта натуральна - для кожнага аўтара, для кожнага пісьменьніка літаратура значыць шмат, і часам бывае момант, калі гэтыя межы паміж літаратурай і жыцьцём сьціраюцца, робяцца непрыкметнымі. Але гэта ў пэўныя моманты, асабліва ў творчыя. А ўвогуле я цалкам сьцьвярджаю прыярытэт самога жыцьця.

**- Вы ўсё жыцьцё казалі праўду і жылі па праўдзе. І вось у канцы стагоддзя і тысячагоддзя мы бачым зусім іншае: нацыянальныя канфлікты, войны, неталерантнасьць, балота хлусьні і несправядлівасьці, пра якое вы ўжо гаварылі. Літаратура, такім чынам, не здолела ўсё гэта хоць у нейкай меры затрымаць.**

- На жаль, мастацтва, як і гісторыя, нічаму не вучаць. Ці амаль што нічаму. Літаратура ж - яна ўзьдзейнічае. Няхай не непасрэдным чынам, але ўзьдзейнічае на грамадзкую сьвядомасьць. Пра гэта сьведчыць пэўны рух у напрамку прагрэсу, рух, які ідзе па вельмі крывой, па вельмі няпэўнай сінусоідзе. Тым не менш, калі параўнаць наша жыцьцё і жыцьцё нашых папярэднікаў, мы гэтак жа бачым, што чалавецтва разумнее. А ў тым, што яно разумнее, што імкнецца на пачатках дабра і справядлівасьці будаваць сваё жыцьцё і ў гэтым дасягае пэўных посьпехаў, ёсьць, безумоўна, і заслуга літаратуры.

**- Вы сказалі, што гісторыя амаль што нічаму не вучыць. Вы ваявалі з фашызмам. Няўжо вопыт фашызму нікога нічаму не навучыў?**

- Фашызм, лічу, навучыў усю нашу сучасную культуру, ён даў добры ўрок. І хаця ён разумеецца рознымі катэгорыямі грамадзтва па-рознаму, а некаторых людзей ён, наадварот, натхняе на рэванш, тым не менш чалавецтва зразумела, што фашызм - гэта тупіковы шлях, злачынны рух, і калі яму наканавана існаваць яшчэ нейкім чынам у дэмакратычным асяродку - такія рэцыдывы ўжо ёсьць і, відаць, яшчэ будуць - дык не будзе мець посьпеху, бо, як вядома, гісторыя па кругу не ходзіць.

**- Як вы ацэньваеце стан беларускай літаратуры і як глядзіце на маладую літаратуру? Якой яна будзе ў будучыні?**

- Яшчэ два гады таму назад у нас выдавалася шмат добрых кніг, выходзілі часопісы, цяпер назіраецца адваротнае, і гэта сумны факт. Безумоўна, усе спадзяваньні цяпер на маладых: яны будуць заснавальнікамі новых напрамкаў, яны возьмуць на сябе асноўны клопат пра разьвіцьцё нашае нацыянальнае літаратуры. Як яна будзе разьвівацца, у якім пойдзе напрамку - мне цяжка сказаць. Думаю, што гэтага не можа сказаць ніхто.

**- Сапраўды, вельмі сумны факт, што салідныя часопісы паміраюць натуральнай сьмерцю. У якой ступені вы бачыце небясьпеку з боку заходняй псеўдакультуры, бо адыход ад пэўных прыярытэтаў зьвязаны менавіта з ёй?**

- Вядома, яна ўжо пануе ва ўсім, асабліва ў шоу-бізьнесе. Там яна замацавалася даўно. Не меншым чынам у кінематаргафіі. Не скажу, што ў літаратуры, а на кніжным рынку. У нас шырокая публіка аддае перавагу Чэйзу перад нашымі класікамі.Гэта - вялікая бяда. Але тут, можа, ёсьць і нейкая заканамернасьць, якую мы яшчэ не зразумелі, гэта значыць, што пасьля гадоў сацыялістычнага рэалізму, герметызацыі нашай культуры зьявілася патрэба ў заходнееўрапейскай і асабліва ў амерыканскай экзотыцы. Будзем спадзявацца, што гэта часовая заканамернасьць, што яна некалі скончыцца. Але калі - гэтага я не магу сказаць.




**- Як вы ацэньваеце ролю рэлігіі ў супрацьстаяньні гэтаму патоку псеўдакультуры?**

- Пераацаніць ролю рэлігіі, асабліва хрысьціянскай, нельга. Менавіта хрысьціянству мы абавязаны тым, што мы ё с ь ц ь. Без яго ўсё, відаць, было б інакш. Уплыў хрысьціянскай рэлігіі быў працяглы, можа, не рашаючы, але вельмі важны. Тое ж назіраецца і зараз.

**- Нядаўна на старонках італьянскага штотыднёвіка "Ля Стампа" харвацкая пісьменьніца Славенка Дракуліч задала рытарычнае пытаньне, ці не сталі мы цынікамі і апартуністамі, бо вельмі ж ужо стараемся вызваліцца ад нашага недалёкага мінулага і не жадаем прызнаць нават відавочныя рэчы. Як вы мяркуеце, ці трэба нам ўсё выкінуць з мінулага, ці не было добрых рэчаў?**

- Безумоўна, былі. І нават у галіне культуры. Я сказаў бы, што ў галіне культуры сацыялізм арыентаваўся найперш на рэалізм, што было недастаткова і выклікала тады шмат крыўдаў, але традыцыйна гэты напрамак у літаратуры, па крайняй меры, самы плённы. Ён стварыў магутны пласт рэалістычнай культуры. І тое лепшае, што рабілася ў гэтым рэчышчы пры сацыялізме, стваралася, безумоўна, не толькі дзякуючы сацыялізму, але часта насуперак гэтай ідэялогіі, таму ўвайшло ў здабыткі сусьветнай культуры. З гэтым чалавецтва не можа не лічыцца. Што будзе створана ў новых умовах пачатковага капіталізму, мы яшчэ не ведаем. Можа, гэта будзе куды больш значнае, а можа, і не.

**- Падчас спатканьня з беларусамі Вільні і Віленшчыны гаворка ішла больш пра адраджэньне Беларусі, чым пра справы літаратуры. І гэта зразумела, беручы пад увагу той факт, што Беларусь у сваім адраджэньні засталася ззаду. Ці не лічыце Вы, што ў кожным адраджэньні, акрамя нацыянальнага элементу (што натуральна), павінен прысутнічаць пэўны нацыяналістычны элемент?**

- Правесьці нейкую мяжу паміж нацыянальным і нацыяналістычным вельмі цяжка. Нацыяналізм, як і кожная зьява, можа быць у сваіх крайніх формах вельмі агідным, таксама, як бальшавізм ці іншыя цячэньні. У беларусаў нацыяналізму заўсёды было мала, яго не хапала для ажыцьцяўленьня нашай дзяржаўнай ідэі. З гэтай нагоды мы адсталі ад чалавецтва, па крайняй меры, ад Эўропы, дзе ўсе этнасы стварылі свае дзяржавы на аснове менавіта нацыянальнай ідэі.

**- Міжнародная асацыяцыя беларусістаў супольна з беларускімі арганізацыямі выступілі з ініцыятывай прысуджэньня вам Нобелеўскай Прэміі. Як вы да гэтага паставіліся?**

- Паставіўся даволі вольна, бо вылучаюць мяне ўжо не першы раз. Відаць, ёсьць людзі, больш вартыя гэтай высокай узнагароды.

**- Ці не замінае вам ваша славутасьць?**

- Не сказаў бы. Унутрана я не адчуваю сябе залежным ад таго, што зьяўляюся больш-менш знанай асобай. Зьнешне? Мабыць, таксама не. Колькі разоў бываў у Вільні, ніхто мяне не пазнаваў на вуліцы. Ды і ў Менску не часта так здараецца.

**- У адным з інтэрв'ю на пытаньне, якім вы ўяўляеце сабе свайго чытача, вы адказалі, што гэта, прынамсі, ваш аднагодак. Ці не зьмянілася ваша меркаваньне?**

- Крыху зьмянілася, бо пераканаўся, што ў сваёй большасьці мой аднагодак перастаў быць маім аднадумцам. Ён пайшоў у іншым накірунку, асабліва ў дачыненьні да драматычных падзей апошніх гадоў. Я маю на ўвазе маё франтавое пакаленьне, якога ўжо мала засталося. На жаль, я з кожным годам усё менш знаходжу з ім агульную мову, я менш разумею іх, яно - мяне.

**- Ці не адчуваеце вы сябе ў гэтай сувязі крыху маладзейшым?**

- У адносінах да пэўных маральных асноў - так.

**- Я ўжо даўно не сустракаў вашых новых твораў. У сувязі з гэтым хацеў бы запытацца, над чым вы цяпер працуеце?**

- Пішу апавяданьні. Усё тая ж ваенная аснова. Некаторыя датычаць больш раньняй гісторыі, у прыватнасьці, грамадзянскай вайны. Можа, неўзабаве выйдзе збор гэтых апавяданьняў.

**- Шчыра дзякую вам за размову, жадаю гарту, творчых задум і посьпеху, а таксама аптымізму ў жыцьці.**

- Вялікі дзякуй.

**Фатаграфаваў С.ГРЫЦ.**

# ДА СТАБРОЎСКІХ – ПА КЛІЧУ СЭРЦА

*Іосіф Іосіфавіч Стаброўскі - слынны сын зямлі Слонімскай. Палкоўнік царскай арміі, краязнаўца, гісторык. На базе ўласнаручна сабранай археалагічнай калекцыі стварыў у Слоніме гісторыка-краязнаўчы музей (1929 г.), будынак якога быў узьведзены таксама ягоным коштам.*

*Пасьля прыходу "другіх Саветаў" І.Стаброўскі ў 1948 г. быў вызвалены ад працы ў музеі "як неадпавядаючы па свайму ідэалагічнаму сьветапогляду" і памёр на 99-ым годзе жыцьця ў 1968 г. у вялікай беднасьці і нястачы.*

*І калі пры жыцьці І.Стаброўскага і адразу пасьля сьмерці ў мясцовай і нават ў цэнтральнай прэсе не-не, ды і друкаваліся невялічкія матэрыялы пра яго, то з 1972 года - на працягу амаль дваццаці гадоў - поўнае маўчаньне.*

*Праўда, яшчэ гадоў 15 таму пра І.Стаброўскага пачынала пісаць навуковую працу Лідзія Буцько - тады студэнтка ўніверсітэта, а зараз - супрацоўніца цэнтральнай бібліятэкі г.Слоніма. Яна сустракалася з ягонай другой жонкай (першая жонка і двое дзяцей памерлі), запісала з яе слоў шмат цікавых фактаў, але з-за недахопу дакументальных матэрыялаў пра навуковую дзейнасьць Стаброўскага вымушана была адмовіцца ад задуманага.*

*Ужо ў 90-ыя гады дасьледаваньнем жыцьця і дзейнасьці І.Стаброўскага заняўся і нямала зрабіў дзеля гэтага слонімскі літаратар Сяргей Чыгрын.*

*Іосіф Стаброўскі - Вайсковец, Чалавек гонару і годнасьці. Патрыёт роднай зямлі.*

І таму ў верасьні 1994 г. Слонімская харугва Беларускага згуртаваньня вайскоўцаў (БЗВ) вырашыла надаць ёй імя І.Стаброўскага і на Дзяды прывесьці ў парадак ягоную магілу.

І вось 1 лістапада аўтобус (уся сям'я пахавана разам пад адным помнікам, які яшчэ пры жыцьці зрабіў сам Стаброўскі) была ў такім стане, што нават цяжка перадаць. Крыжы павалены. Аднаго зусім няма. Замест магіл - роўнае, зарослае месца.

Успомнілася дырэктар цэнтральнй бібліятэкі г.Слоніма Рыма Міско, якая напярэдадні прывозіла сюды рэжысёра беларускага тэлебачаньня. З болем у душы і сьлязьмі на вачах яна сказала: "Сорамна, вельмі сорамна". І сапраўды было сорамна бачыць усё гэта пасьля стольких высокіх слоў пра Стаброўскага апошнім часам, пасьля навуковай канферэнцыі (верасень 1994 г.), прысьвечанай 65-ым угодкам заснаваньня Стаброўскім музея. Было сорамна, што мы сваёй бязьдзейнасьцю дазволілі такое. І пэўна, не варта ківаць на ўлады: маўляў, паганыя і нічога не робяць. А мы - добрыя! Дзе былі? Чаму не рабілі?

Амаль дзьве гадзіны высякалі хмызьнякі, ачышчалі помнік і вакол яго вядомы краязнаўца, сябра БЗВ Васіль Супрун, літаратар Сяргей Чыгрын, дырэктар Парэчскай школы Мікалай Барысік, супрацоўнік "Слонімскага весьніка" Мікола Супрун, журналіст Віктар Валадашчук і аўтар гэтых радкоў.

Дзякуй Богу, што на хутары бліз могілак яшчэ жыве старая бабуля Вольга Кузьмінічна Курыловіч, пра якую сябры БЗВ даведаліся напярэдадні ў сельскім Савеце.

Муж яе, Філіп,з шасьці гадоў гадаваўся ў Стаброўскага. Разам з Стаброўскім тачыў камяні на помнік. У іхняй жа хаце рабіліся хаўтуры. Па нашай просьбе Вольга Кузьмінічна прыйшла на могілкі і паказала, дзе і чые магілы разьмешчаны.

Калі вярталіся назад, прыгадаліся словы С.Чыгрына: Вось такая занядбаная і ўся наша Беларусь". І сапраўды, нездарма ж кажуць: "Хочаш даведацца пра краіну і яе насельніцтва - схадзі на могілкі".

Але ж цешыць думка, што хоць паволі, а ўсё ж ачуньваем. Успамінаем дзядоў, такіх людзей, як І.Стаброўскі, цікавімся ўласным радаводам. А гэта ўжо добры знак. Упэўнены, што на будучы год да Стаброўскіх прыйдзе ўжо не дзесятак чалавек, а значна больш. І прыйдуць яны не дзеля афіцыйнага мерапрыемства, а як і цяпер - па клічу сэрца.

**Міхась ВАРАНЕЦ,**
**маёр запасу, каманьдзір харугвы БЗВ г.Слоніма.**

**НА ЗДЫМКАХ:** месца захаваньня Стаброўскіх да наведваньня і пасьля.





